Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:
**Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.**
(Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г.
штодня апрача сьвяточных дзён.
Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

# ІСКРА

Выходзіць тры разы у тыдзень.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукована га залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№. 6. Вільня, Серада, 24-га чэрвеня 1925 г. Год I.

## Змаганьне за зямлю.

У панядзелак, 22 чэрвеня, у варшаўскім Сойме пачалася агульная дыскусія аб урадовым зямельным законе.

Як ужо ўсім вядома, прыняты Устаноўчым Соймам закон аб зямельнай рэформе аказаўся, проста кажучы, „пад сукном". Ніводзін з дзесятку зьмяняўшыхся ўрадаў—ані левы, ані правы — не адважыўся правясьці яго ў жыцьцё, баючыся „наразіцца" тэй групе насяленьня Польшчы, якая запраўды зьяўляецца тут пануючай: зямельнай буржуазіі, абшарнікам.

Можам сьмела сказаць: у старонцы, дзе галоўны занятак насяленьня прадстаўляе земляробства, запраўдным гаспадаром зьяўляецца той, хто *валадае зямлёй*. У Польшчы, асабліва-ж у Заходняй Беларусі ды Заходняй Украіне, што пад Польшчай, такім валадаром неаб'ятных зямельных абшараў зьяўляюцца польскія паны, якія на гэтай падставе трасуць, як самі хочуць, ня толькі вёскай, але й самай дзяржавай. Дык ня дзіва, што яны *не далі правясьці ў жыцьцё гэны зямельны закон*, які Устаноўчы Сойм — пад націскам рэвалюцыйнае небясьпекі з Усходу — прыняў пяць гагоў назад.

Істотай гэнага закону быў пераход зямлі ад паноў да сялянства, хаця й на такіх варунках, якія йшчэ на доўгі час закабалівалі сялян эканамічна — дарогай розных аплат, кшталтам таго выкупу, які сялянства ў працягу сараку гадоў плаціла за „волю" і зямлю ад 1861 году. Але, хаця паны за зямлю меліся дастаць грошы, аднак, іх панаваньню над вёскай мусіў бы прыйсьці канец: для іх у вёсцы не аставалася-бы мейсца. Вось, гэтага польскае панства дапусьціць не хацела і—*не дапусьціла*.

Новы закон, якім урад п. Грабскага хоча падмяніць гэны стары, што памер, ня бачыўшы сьвету,—зусім ужо выракаецца думкі аддачы панскае зямлі ў нашым краю нашаму-ж сялянству. Урад п. Грабскага зусім добра разумее, што падзел абшарніцкае зямлі між беларускімі (а таксама й украінскімі) сялянамі—гэта ліквідацыя ў нас польскага панаваньня, польскага „stanu posiadania". Хоць-бы варункі выкупу дворнае зямлі беларускім сялянствам былі нет ведама якія цяжкія,—*правядзеньне гэтага выкупу зрабіла-бы беларусоў запраўднымі гаспадарамі ў сваім краю.* І вось, каб гэтага не дапусьціць, новы зямельны закон імкнецца да таго, каб тая *частка* дворных абшараў, якую як-ні-як прыдзецца ўзяць (ведама, за добрыя грошы!) у нашых польскіх абшарнікаў, дасталася *не беларусам, а ізноў-жа палякам* — у асобах вайсковых асаднікаў.

Вось галоўны зьмест і сэнс таго зямельнага закону, які Сойм пачаў разглядаць у гэты панядзелак. І дыскусія ў зямельнай справе—гэта для беларускіх паслоў будзе генаральная баталія *ня толькі аб зямлю* для нашых беззямельнікаў і малазямельнікаў, — зямлю, якую яны ад вякоў і іх дзяды палівалі сваім крывавым потам,—але і аб *права беларускага народу быць гаспадаром у сваёй старонцы.*

Пажадаем-жа нашым выбранцам сіл і энэргіі ў гэтай барацьбе за зямлю,—барацьбе зусім *няроўнай* і наперад *засуджанай на паражэньне*: у пытаньні, хто мае быць гаспадаром зямлі ў Заходняй Беларусі, здаецца, усе польскія партыі зыходзяцца на тым, што „польская" зямля мусіць быць і астацца ў польскіх-жа руках....

## „Зямельная рэформа" у Польшчы.

Нарэшце дачакалася сялянства ў Польшчы закону, ці законапраекту—аб „зямельнай рэформе", які, здаецца, урад мае навет намер выпаўняць — ня так, як было з знамянітым, „тэарэтычна-абавязываючым" (пекны выраз „Kur. Polsk.") законам 1920 г., што быў выданы „сацыялістычнымі" сынкамі бацькоў абшарнікаў—толькі дзеля таго, 1) каб гнаць сялян на ваенную бойню, 2) каб уратаваць у той небясьпечны час бацькоўскія маёнткі.

17-га чэрвеня камісія Сойму прыняла ў трэцім чытаньні праект, у мінулы панядзелак праект пайшоў на пленум Сойму.

На апошнім паседжаньні камісіі не абыйшлося без скандалу, вельмі паказальнага. Уся сялянская лявіца камісіі бяз розніцы нацыянальнасьцяў—пакінула паседжаньне — у знак пратэсту — і ў галасаваньні ўчасьця ня прыняла. Але затое абяцала—„галасаваць", дый, як кажуць, яшчэ і з „музыкай"—на пленуме Сойму. Дык ясна ўжо з гэтага, што праект—крыўдны для сялянства. Асталіся, з левіцы разам з сваім старшынёй камісіі таварышсм Марачэўскім—толькі „ўрадовыя сацыялісты"—пэпэсы.

Другая цікавая і паказальная адзнака спараджонага камісіяй урадовага „байстручка", гэта яго „хрэзьбіны" на тым-жа апошнім паседжаньні камісіі.

Адзін з „хросных бацькоў". пэпэсавец Квапіньскі (найрадыкальнейшы Прэзэс Саюзу сельскагаспадарчых работнікаў у Польшчы, — той самы, што правaліў нядаўнюю іх забастоўку) запрапанаваў, каб урадова-пястоўскага байстручка „хрысьціць" усё-ж такі гучным і радыкальным імем — „закону аб выкананьні зямельнай рэформы". Але камісія ў большасьці аказалася больш праўдзівай і назвала яго, як яно ёсьць у запраўднасьці, праектам — „аб парцэляцыі і асадніцтве". Ніжэй мы падаем той гвалт панікі, які паднялі — вуснамі свайго старшыні—з прычыны законапраекту, паны „крэсавыя" абшарнікі.

Дык—з аднаго боку—проці праекту пратэстуюць прадстаўнікі ўсяго бяднейшага сялянства, для якога, трэба думаць, рыхтуецца ўся гэтая „рэформа", з другога боку—галосяць абшарнікі. Вось і трэба разабрацца,—ці запраўды новы праект штось дае сялянству, а перад усім — бяднейшаму нашаму беларускаму сялянству на „Крэсах", з аднаго боку, а з другога—ці ўжо так напраўду б'е і крыўдзіць паноў абшарнікаў.

Якраз на гэтыя два галоўныя пытаньні: скуль мае брацца зямля, і—якім парадкам; і—што з гэтай зямлёй будзе рабіцца, — і адказвае законапраект.

На першае пытаньне адказвае праект адкрыта словам: **парцэляцыя**; на другое пытаньне—таксама адказвае каротка, але зусім ясна і выразна выразам „асадніцтва".

І калі гэты апошні выраз для рэшты Польшчы мае шырокі зьмест, для „Крэсаў" гэты зьмест—ясны, ведамы на досьледзе апошніх гадоў.

Лямант абшарнікаў, перад усім, можа, „крэсавых", мае пэўныя падставы: зямлю будудь, мо і ў значай меры, брацьь ад іх.. І за зямлю, калі яны не здалеюць скарыстаць з усіх выгадаў „прыватнай парцэляцыі", будуць плаціць ім запраўды-ж „паперамі" Рольнага ці якога іншага Банку, лёс якіх можа быць падобны да пахаванае польскае маркі.

Але, як пабачым далей, вялікую слушнасьць мае і пратэст проці злуднага і крыўднага праекту перад усім „крэсавага" сялянства.

---

Перад усім трэба сцьвярдзіць, што новы закон зусім касуе навет самы прынцып адыграўшага сваю пекную, як кажуць, „гістарычную" роль, „закону 1920 году"... — Ані якогась „адабраньня Зямель" на карысьць дзяржавы", ані актыўнай, навет, галоўнай ролі ўраду ў-ва ўсей акцыі раздробленьня „адабранага" ад абшарнікаў „дзяржаўнага зямельнага фонду", аб чым гучна абвяшчала „устава" паноў Дашыньскіх у час бальшавіцкага наезду, у новым праекце зусім няма.

Цэнтр, зьмест і сэнс закону, гэта—**„прыватная парцэляцыя"**, якую толькі ўвесь час будзе страшыць, ці падганяць пагроза... праз два гады зусім „вольнай рукі"—прымусовая парцэляцыя, можа, — па цане яшчэ вышэйшай...

Зьмест закону ў тым, што ў пачатку кожнага году міністар „Зямельных рэформ" публікуе так званыя „калянізацыйныя пляны"; у гэтых „плянах" мае быць выказана, сколькі зямлі мае быць усяго разам распарцэлявана ў тым ці іншым Окрузе, ці павеце, ці мо' і драбнейшай адзінцы.

На першыя штось 5 гадоў мае быць гэткім чынам распарцэлявана па 200,000 гэктараў (гэктар троха больш, як дзевяць дзесятых дзесяціны).

Гэткім чынам на кожны год для каждага, скажам, павету згары азначаецца ведамая лічба зямлі, якая павінна быць дабравольна распарцэлявана. У гэтую лічбы залічаецца ўсякая парцэляцыя, усялякая прадажа зямлі—ці памешчыкамі, ці „суполкамі", ці грамадзкімі ўстановамі, ці ўрэшце—урадавымі — Банкам Рольным ці Зямельным Урадам.

Калі да канца году назначаная колькасьць зямлі ня будзе распарцэлявана, тады той-жа міністар — ці то ў канцы таго-ж году, ці ў пачатку наступнага, сам вызначае тыя ці іншыя маёнткі—ужо на прымусовую парцэляцыю, якая аднак-жа запраўды пагражае толькі.. за 10 месяцаў, у часе якіх абшарнік можа яшчэ скарыстаць з права прыватнай прадажы. Страшэнна абурае абшарнікаў тое, што п. Юндзілл назваў „дыктатурай міністра па экспропрыяцыі".—Гэта значыць, што, калі ўжо раз міністар выбраў які маёнтак абшарніка для парцэляцыі і апублікаваў яго ў сьпіску, дык на гэтае ўжо няма ніякай апэляцыі; — тады ўжо канец: рашэньні міністра—аканчальныя. Калі абшарнік не скарыстае апошнім срокам у 10 месяцаў, тады ўжо маёнтак парцэлюецца ўрадавымі ўстановамі—прымусова.

Але-ж не выпускаюць з гэтай парцэляцыйнай лазьні абшарніка зусім голага на вуліцу. — Перад усім яму пакідаюць 180 гэктараў зямлі, дый зразумела—найлепшай, бо сам ён свой маёнтак парцэлюе—якую хоча частку, тую пакідае сабе. Пакідаюцца абшарніку і ўсе яго лясы, якія парцэляцыі не падлягаюць. Але ня ўсім абшарнікам пагражае навет гэткі „страшны" лёс.—Пакідаюць абшарнікам усе іх маёнткі, дзе заведзена так званая „прыкладовая гаспадарка", маёнткі, маючыя асаблівую культурна-прамысловую вартасьць. Гэткіх маёнткаў закон мае пакінуць у абшарніцкіх руках аж 550,000 гэктараў. Але можна быць пэўным, што, калі такіх „прыкладовых" маёнткаў акажацца ў

## Запаведзь п. Рачкевіча.

Нованазначаны на становішча міністра ўнутраных спраў п. Рачкевіч падзяліўся з журналістамі сваімі плянамі працы на гэтым становішчы.

Ня будзем тут паўтараць тэй дэклямацыі аб „законнасьці" і „канстытуцыйнасьці", якую чулі мы ад усіх міністраў унутраных спраў, хаця яны, як кажа п. Тугутт, на дзеле дапускалі ў сваей галіне гаспадараваньня навет такую агіду, як палітычная правакацыя, катаваньне людзей і т. п. Зьвернем увагу на тую заяву п. Рачкевіча, якая адносіцца беспасярэдна да нашага краю.

„Крэсавае пытаньне ў межах маей кампэтэнцыі я буду разглядаць у плошчы падняцьця эканамічна-гаспадарчага і культурнага стану гэтых зямель шляхам гаспадарчае дапамогі насяленьню і ўзмацаваньня культурна-асьветных і цывілізацыйных зачаткаў гэтага краю". — Так сказаў п. Рачкевіч.

Дужа гэта пекна. На жаль, у бытнасьць сваю дэлегатам ураду ў Вільні п. Рачкевіч паказаў, як трэба разумець гэтыя пекныя пасулы. Дапамога на адбудову, дадзеная ўрадам Віленшчыне, йдзе—з багаслаўленьня п. Рачкевіча—перад усім **на адбудову касьцёлаў і казённых гмахаў**... Што-ж датычыць „культурна-асьветных і цывілізацыйных зачаткаў гэтага краю", якія п. Рачкевіч абяцуе разьвіваць і ўзмацоўваць, дык хіба-ж ніхто ня будзе сумлявацца, што тут гутарка йдзе выключна аб **узмацоўваньні польшчыны**. П. Рачкевіч, байкатуючы беларускія культурныя ўстановы, адмаўляючы зацьвярджэньня статутаў беларускіх грамадзкіх арганізацыяў, ды падтрымліваючы палітычныя — далёкія ад усялякай культуры і асьветы—афэры п.п. Валэйшаў і Павлюкевічаў, ясна паказаў, што іменна так, а ня йнакш, трэба разумець яго словы аб культурна-асьветнай рабоце ў Заходняй Беларусі.

Так канкрэтна выглядае плян працы новага міністра ў адносінах да нашага краю. Новага для нас тут няма нічога... **Палітыка ўраду ў адносінах да беларусаў ня зьменіцца.** І з гэтага пагляду заявы п. Рачкевіча толькі пацьвярдзілі той сумны пагляд на польскую „крэсавую" палітыку, які ў такіх панурых калёрах адмаляваў у сваім вядомым лісьце п. Тугутт.

**К. Ф.**

# Голад.

Праз поле, праз хаты і сёлы,
У кароне з касьцёй чалавечых
Іду, разбуялы, вясёлы,
З хатомкай мярцьвячай на плечах.
Паклоны б‘е стар мне і молад
І дзетак рай босых і голых,—
Бо Голад я, Голад!

З прадсьмертных сьлязінаў і поту
Брыльянты на мне зіхацяцца,—
Абвёў іх з крыві пазалотай....
А з сілай маёю зраўняцца
Ня ў сілах ні сьпека, ні холад,
А шлях мой бяз рыцьваў і плоту,—
Бо Голад я, Голад!

Іду. Прада мной зазірае
Жывым сьмерць галодная ў вочы
І косе ў рад, не разьбірае—
Ў дні белыя, ў чорныя ночы.
Ці слаб хто, ці дужы, як волат,—
Груган яго косьці зьбірае,—
Бо Голад я, Голад!

Іду. А за мной сьледам—лазам
Паўзуць зьніштажэньні, руіны.
Я—мору тварэц бязупынны,
Я—сейбіт бязьмежнай заразы,
Мой скіпетр—лядзянячы молат,
Ім рабству дыхтую ўказы,—
Бо Голад я, Голад!

Пад чорным маім уладаньнем
Сіроцтва гне корна калені,
І ўдоўства галосіць літаньнем
На голым магільным каменьні.
Мне гымны складае вякоў лад—
Мне, сытаму людаў кананьнем,—
Бо Голад я, Голад!

(„Безназоўнае“) **Янка Купала.**

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### „Мытная вайна“ між Нямеччынай і Польшчай.

Нямецкі ўрад паведаміў вугальныя фірмы, што з 1-га ліпня ня будзе больш выдавацца дазвол на ўвоз вугальля з Польшчы.

Гэтым страшэнна павялічыцца безрабоцьце ў Польшчы.

„Robotnik“ аблічае, што ня менш, як 30.000 работнікаў будуть выкінуты на вуліцу, пакуль польскі ўрад здалее „прыняць меры“ і „вышукае новыя рынкі“ для польскаге вугальля.

Польскі ўрад таксама рыхтуецца да вайны: мае забараніць увоз цэлага раду тавараў з Нямеччыны.

Трэба спадзявацца ўзросту дарагоўлі і на гэтыя тавары, і наагул, — бо ўвоз і вываз Польшчы больш як на палсву зьвязаны з Нямеччынай.

Лістам да газ. „Kur. Poranny“ ён заяўляе аб сваіх правох і шукае, з кім у Польшчы завязаць зносіны...—Szczęść Boze!..

### „Рада ваеннай прамысловасьці“.

На 23/VI ваенны міністар Польшчы склікаў новастворанную „Раду ваеннай прамысловасьці“.

Нешта падобнае было і ў Расеі, але... у часе вайны!..

### У „крэсавай сэкцыі“.

„Robotnik“ абураецца на ўрад, які фальшыва інфармуе прэсу аб згодзе пэпэсаўца Ляв. Васілеўскага заняць „мейсца Тугутта“ ў „крэсавай сэкцыі“.

„Robotnik“ піша катэгарычна, што „таварыш Лявон“ адмовіўся; браты Грабскія таксама рашуча заяўляюць, што ня толькі згадзіўся, але ўжо і назначаны.

Цікава, хто-ж кажа, ці ўрэшце скажа... праўду, тую „праўду ў палітыцы“, аб якой да так гучна ўздыхаў толькі што „Клюб Працы“.

### Новы ахвотнік на „польскі трон“.

У сувязі з акцыяй польскіх манархістаў, якія шукаюць „законнага польскага караля“ і высунулі нейкага францускага „прынца“, аб‘явіўся новы прэтэндэнт — быццам запраўдны патомак польскага караля Яна Сабескага—нейкі граф Пудэр.

## Заграніцай.

### Манэвры ў часе манэрваў.

У часе манэвраў англійскага флёту ў Балтыцкім моры Радавы ўрад загадаў зрабіць вялікія манэвры войскаў Петраградскага Вокругу—пад Петраградам.

### Француская нота Нямеччыне—у справе „пакту бясьпечнасьці“.

Брыян нарэшце выслаў ноту Нямецкаму ўраду, у якой вельмі ветліва просіць, каб той зусім ясна выказаўся па цэламу раду зьвязаных з яго прапазіцыяй пытаньняў. Адначасна нота выясьняе становішча францускага ўраду, які дамагаецца, каб новы пакт ні ў чым не нарушаў ужо істнуючых Трактатаў і абавязкаў Францыі перад яе саюзьнікамі. Але, відаць, гэта — толькі „разгавор“, бо немцы ня згодзяцца на гэта.

Нямецкі ўрад, атрымаўшы ноту, заявіў, пакуль што, што будзе яе разглядаць... шмат часу. Трэба-ж пачакаць, пакуль Францыя „памягчэе“ яшчэ ад марокскага жару...

### „Чэхія і Польшча здаволены“.

Найвялікшая француская газэта „Le Temps“ піша: „нашы прыяцелі—чэхі і палякі праз увесь час перагавораў мелі да нас поўнае даверые і вельмі здаволены „пактам бясьпечнасьці“ (гарантуючым толькі Францыю—*Рэд*...) паны Бэнэш і Скшыньскі прызналі, што Францыя зрабіла... усё, што магла“ (на што згадзілася Англія).

Няведама толькі, за што „Gaz. Warsz.“ называе паноў Чэмбэрлена і Брыяна — „бандытамі“ і іншымі пекнымі славамі (гл. артык. п. Сьвентоховскага).

### Англійскія калёніі—процi „пакту“.

Кансэрватыўная прэса ў англійскіх дамініях і калёніях (заморскіх краінах) рэзка высказываецца процi ўсялякіх „пактаў бясьпечнасьці“. Брытанская імпэрыя—сусьветная каляніяльная дзяржава і не павінна ўцягівацца ў рызыку вайны, мяшаючыся да „мясцовых эўрапэйскіх справаў“.

### Англія „разброіваецца“.

Англійскі ўрад падаў у парлямант праект будовы 10 новых быстраходных крэйсэраў.

### Балтыцкая канфэрэнцыя.

У пачатку ліпня ў Рызе мае адбыцца канфэрэнцыя балтыцкіх дзяржаў—Літвы, Латвіі і Эстоніі — у справах узаемнага супрацоўніцтва.

### Упадак ліры.

У Італіі зрабіў паніку неспадзяваны ўпадак на біржы ліры (дзяржаўная манэтная адзінка, як злоты ў Польшчы). Адны тлумачаць зьявішча націскам Англіі, каб змусіць Італію да падпісаньня „пакту бясьпечнасьці“, бо толькі-што Мусоліні заявіў, што „сам выбяра час, калі падпіша „пакт“. Другія кажуць, што гэта — нармальны рэзультат „добрага гаспадараваньня“ фашыстаў у Краі.

### „Будзе вялікі пераварот“.

На апошнім паседжаньні Інтэрнацыяналу Зіноўеў заявіў, што на Усходзе і ў Індыі трэба чакаць вялікіх здарэньняў. Падзеі ў Марокко і ў Кітаі толькі ўступленьне да запраўднай опэры—у вялікім маштабе.

## Арышт ксяндза-беларуса.

**Ня гледзячы на тое, што ўсе даносы абшарнікаў на ксяндза Гадлеўскага, які ўвёў у Жодзішках беларускія казаньні, заўсёды аказваліся ілжывымі, сьледчы судзьдзя ў Сьвіры 22 гэтага чэрвеня заарыштаваў яго і згаджаўся звольніць пад залог ажно ў ліку 5.000 зл., якіх ніхто за яго залажыць ня мог.**

**„Słowo“ з трыумфам паведамляе, што назаўтрае кс. Гадлеўскага перавезьлі ў Вільню на Лукішкі.**

### „Рэвалюцыя ў мове“ на мусульманскім Усходзе.

Бальшавікі ў інтарэсах агітацыі перад усім — рашылі зрабіць вялікую спробу замяніць, „сьвяты“ арабскі альфавіт, якім пісаны Каран і ўся духоўная літэратура ўсходніх мусульман,—нашым эўрапэйскім шрыфтам. Гэтай справай, прабіваючай ход да душы ўсяго мусульманскага ўсходу, цікавіўся яшчэ Ленін, заявіўшы, што гэткі крок быў-бы найвялікшай рэвалюцыяй на ўсім Усходзе. Усё мусульманскае духавенства, зразумела, выступае процi гэтага, але бальшавікі вядуць акцыю праз рэвалюцыйна настроеную моладзь. На Каўказе сярод туркаў ужо паявіўся Каран, выданы расейскім альфавітам.

### Памёр—правадыр індыйскіх незалежнікаў Дас.

Англіі шанцуе: Памёр адзін з самых заядлых ворагаў Англійскага панаваньня над індускімі народамі—правадыр партыі незалежнікаў—Дас, які, як больш актыўны барацьбіт, адсунуў даўнейшага правадыра „таўстоўца“—Гандi.

## У Кітаі.

### Першая перамога кітайскага народу.

Дзяржавы, слаўшыя процi Кітаю крэйсэры з войскамі, б‘юць адбой. Кітайскі народ атрымаў першую, яшчэ дробную перамогу над імпэрыялістамі, апанаваўшымі яго край, а перад усім над найбольш ненавіснымі яму англійцамі і японцамі.

Відаць, пад націскам Амэрыкі, паслы саюзных дзяржаў паведамілі кітайскі ўрад, што іх урады прапануюць склікаць канфэрэнцыю—дзеля абгавору стварыўшагася палажэньня.

З свайго боку паслы вызначылі ад сябе камісію, зложаную з 3-х прадстаўнікоў дзяржаў, процi якіх не скіравана (?) варожая акцыя кітайскага народу: Амэрыкі, Францыі і Італіі (Англія і Японія выключаны!). Гэтая камісія разам з прадстаўнікамі кітайскага ўраду і займецца разглядам высокіх (!) трэбаваньняў Кітаю.

Гэтая камісія ўжо зьвярнулася да кітайскага ўраду з заявай, што гатова да перагавораў аб „рэарганізацыі канцэсіяў у Шанхаі“. Якая павінна быць — на кітайскі пагляд—гэтая „рэарганізацыя, — найтрафней казаў у ведамым нашым чытачом артыкуле, — Троцкі.

### Кітайскі ўрад і забастоўка.

Кітайскі ўрад зусім адкрыта падтрымлівае маральна і матар‘яльна бастуючых работнікаў, не баючыся грозных яшчэ нядаўна дзяржаў. У гэтым — вялікая перамога маладой кітайскай інтэлігенцыі, якая ў саюзе з работнікамі сталася рашучай сілай у Кітаі. Міністар чыгункі выдаў загад, каб усе служачыя адлічалі на карысьць бастуючых частку свайго заработку. Забастоўка перакінулася і на ўсе караблі, дзе толькі ёсьць кітайскія работнікі.

### Найбольш—процi англійцаў.

Антыанглійскі рух у Кітаі пашыраецца і паглыбляецца ўсё больш. Уся кітайская прэса поўна варожых, заклікаючых да рашучых крокаў процi англійцаў артыкулаў і адозваў. Англійцы, дзе можна, арганізуюць самаабарону, а — пераважна ўцякаюць на свае караблі.

Англійскія газэты бачаць ува ўсім гэтым „нейкую ўкрытую руку“.

# „Безназоўнае“.

(*Зборнік вершаў Янкі Купалы*).

Двадцатыя ўгодкі сваей паэтыцкай творчасьці, якія прыпадаюць на сёлетні год, адзначыў Купала выпускам у сьвет новага зборніку вершаў пад загалоўкам „Безназоўнае“ (Менск, Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі, 1925).

Паскольку ранейшыя назовы зборнікаў твораў Купалы мелі кожнаму зразумелыя назовы: „Жалейка“, „Гусьляр“, „Шляхам Жыцьця“, „Спадчына“,—пастольку апошні назоў вельмі мала гаворыць аб тым, што знойдзем, расчыніўшы хараша надрукаваны томік найнавейшых вершаў нашага юбіляра. І трэба думаць, што Купале трудна было знайсьці такі назоў, які выявіў-бы вельмі зложны працэс, каторы за апошнія гады адбываецца ў ягонай душы і знаходзе сваё выяўленьне ў найнавейшых вершах Купалы.

Купала перад усім—сын Зямлі, які гэтак вырас духова па-над акружаючую яго масу, што думкай абняў ня толькі сваю ўбогую вёску, але і ўвесь народ—усю беларускую нацыю. Не дарма-ж ён лічыцца нацыянальным песьняром—прарокам, які вядзе беларускую масу да духовага і матэрыяльнага вызваленьня. Але пад той час, як у аснове яго ідэалёгіі раней ляжала ўсё-ж такі ідэалёгія сялянская,—цяпер, у сувязі з пяршынствам беларускага работніка ў будаваньні вольнае Бацькаўшчыны, у Купалы пачынаюць гучэць новыя матывы і тоны—**пралетарскія**. І мо‘ нідзе ў жыцьці няма такое цеснае „смычкі“ між ідэалёгіяй селяніна і работніка, як у гэтым новым зборніку Купалы, для якога аўтар не знайшоў адпаведнага назову.

Хаця Купала ўжо ў сваей вершаванай паэме „Сон на кургане“ зачапляе злыбеды работніцкага жыцьця, але толькі тут—у новым зборніку — ён пачынае гаварыць языком работніка. Вось уступны верш у „Безназоўным“:

... О так! Я—пролетар!
Яшчэ учорах раб пакутны—
Сягоньня я зямлі ўладар
І над царамі цар магутны!

Мне бацькаўшчынай цэлы сьвет,
Ад родных ніў я адвярнуўся....
Адно... ня збыў яшчэ ўсіх бед:
Мне сьняцца сны аб Беларусі!

Вось, як рашуча, адварачваецца Купала ад старое сялянскае ідэалёгіі! Але і „сусьветнае грамадзянства“ яго йшчэ няпоўнае: Купала перайма ецца новай для яго пралетарскай ідэалёгіяй, адварачваецца ад родных ніў, але пры ўсім сваім інтэрнацыяналізьме ня можа пазбыцца таго, што становіць істоту ягонае душы: ня можа пазбыцца любві да сваей Бацькаўшчыны, ня можа пазбыцца „сноў аб Беларусі“.

Купала апынуўся на росстані: з аднаго боку ўсім сваім цяжарам яго ўдзержывае вёска з яе асаблівым сьветапаглядам, з другога — захоплівае размах і сіла работніцкага руху. А побач з гэтым ідзе барацьба—ці мо‘ шуканьне нейкага кампрамісу, які пагадзіў-бы яго гарачую любоў да Беларусі з космополітычнычнай ідэалёгіяй пралетарыя.

Хіба гэтым і тлумачыцца выбар назову зборніку. Дый зьмешчаны ў ім верш „Безназоўнае“ толькі пацьвярджае нашу дагадку аб тэй ідэйнай эвалюцыі, якую перажывае сяньня Янка Купала.

Ня будзем тут затрымлівацца над паасобнымі вершамі Купалы. Яны—непараўнаныя па свайму хараству і сіле—і тады, калі паэт дае цудоўны абраз ляснога возера (асабліва пекная тут рытміка пры рыфмаваных толькі другіх радкох!), — і тады, як апісвае далёкі Крым, што даў гэтулькі патхненьня некалі Адаму Міцкевічу, — і тады, як на трывогу б‘ець у званы... Купала—мастак слова—выявіў сябе тут у-ва ўсей сваей велічы.

На жаль, далёка ня ўвесь зборнік Купалы складаецца з новых рэчаў. Блізу палова — рэчы ўжо друкаваныя, як, да прыкладу, „На папасе“ (гл. „Шляхам Жыцьця“), „Хаўтурны марш“ з Цейскага (зборнік „Наша Ніва“ 1920 г.) і інш. Ёсьць і перапевы старых матытаў, як „Адшчапенцам (Заходнім)“, вельмі нагадуючыя аналягічныя вершы ў зборніку „Шляхам Жыцьця“.

Усё-ж такі „Безназоўнае“ — прынамся новая частка яго—гэта йшчэ адзін цэнны ўклад у нашу літэратуру, гэта—новы крок наперад да сфармуляваньня нашае адраджэнскае ідэалёгіі, а разам і мастацкі ўзор для нашае паэтыцкае моладзі.

**Ант. Навіна.**

